Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9.

Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 25 сакавіка 1932 г. № 11 (36)

## Запраўды, ускрэсла!

*(У 14-тыя ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі).*

Чатырнаццаць гадоў мінае сягоньня ад таго мамэнту, калі Рада Рэспублікі ў дзяржаўным Менску дала самае яркае, самае поўнае выяўленьне волі Беларускага Народу *быць гаспадаром на сваей зямлі.*

У слове *Незалежнасьць*, якое прагучэла тады з Менску на ўвесь сьвет, сформулаваліся ўсе нашыя палітычныя імкненьні, знайшлі конкрэтнае выражэньне і завяршэньне ўсе нашыя шуканьні шляху да яснае будучыны.

У шэрыя будні беларускага жыцьця пранік раптам яркі сноп сьвятла. Сьвятло гэтае сьпярша асьляпіла вочы тых, хто так доўга жыў у цемры няволі. Шмат хто жмурыўся, закрываўся ад яркасьці *новага Слова.* Шмат хто ня верыў, што гэтае Слова мусіць *дзелам* стацца.

І выйшла так, што як-быццам мелі рацыю гэтыя пэсымісты. З двайга падставовых пунктаў Устаўнае Граматы, абвясьціўшае 25 сакавіка 1918 году волю Беларускага Народу, мы ня бачым дагэтуль зьдзейсьненьня ані поўнае Незалежнасьці Беларусі, ані — аб'яднаньня ў адно цэлае ўсіх тых часьцін, на якія парэзана наша многапакутная Бацькаўшчына...

І ўсё-ж—вось ужо чатырнаццаты раз сьвяткуем мы дзень 25 сакавіка. І ўсё-ж — сьвяткуюць яго навет тыя пэсымісты, каторыя, здавалася-бы, павінны трымфаваць, што сталася, як яны прадбачылі.

Чаму-ж гэта так?

Бо актам 25-га сакавіка 1918 году Народ Беларускі стварыў свой *нацыянальны Ідэал*, якога раней яму не хапала. Бо-ж гэты ідэал сьвятлом сваім паказуе нам дарогу да будучыны. Бо незалежнасьць Беларусі — гэта ёсьць і лёгічная, і гістарычная *неабходнасьць*, якая раней ці пазьней, такім ці сякім шляхам *будзе зрэалізована.*

*Беларусь сталася незалежнай у сьвядомасьці беларускіх народных масаў.* І ў гэтым — залог рэалізацыі нашага нацыянальнага Ідэалу. Бо-ж кожная вялікая ідэя на працягу ўсяго гістарычнага існаваньня Чалавецтва мусіла перш дасьпець і сформулавацца ў сьвядомасьці людзей і толькі пасьля — часта цаной цяжкіх мукаў і ахвяр — ператваралася ў дзела.

Так *будзе* і ў нас. Так *мусіць* быць. Мы маем *нязломную веру* ў гэта.

Гэтая вера, якую мелі чатырнаццаць гадоў назад тварцы акту 25 сакавіка, ужо перайшла ў *наступныя пакаленьні*, што за гэты час вырасьлі. Яна — наш найдаражэйшы нацыянальны скарб, які і далей кожнае новае пакаленьне мусіць пераказваць сваім наступнікам. І ў сяньняшнюю вялікую гадавіну мы клічам да ўсіх беларусаў — на ўсіх частках нашае парэзанае Бацькаўшчыны: *пільнуйце гэтага скарбу — гэтае веры нашае*, і прыдзе вялікі, сьветлы дзень, калі, як на Вялікдзень, беларусы будуць вітаць адны адных слявамі:

— *Ускрэсла Беларусь!*

— *Запраўды, ускрэсла!*

## Спробы ліквідацыі вайны.

### Японска-кітайскія перагаворы ў Шанхаі.

У Шанхаі ідуць перагаворы паміж дэлегатамі Японіі і Кітаю—бяз учасьця камісіі Лігі Нацыяў, якая толькі здалёк „пруглядаецца“ да гэтых перагавораў. Японскія крыніцы пішуць, быццам перагаворы ідуць гладка дый скончацца поўным паразуменьнем; кітайскія весткі—наадварот — кажуць, што японскія дамаганьні ня могуць быць прынятымі Кітаем. Характэрна, што, як Японія, так сама й Кітай, усьцяж падвозяць пад Шанхай новыя войскі...

### Адносіны Японіі да новай Манчжурскай дзяржавы.

На ноту Кітайскага ўраду з 1 сакавіка Японскі ўрад адказаў афіцыяльна, што „Японія ня мае ніякіх зносінаў з новым манчжурскім урадам дый не нясе адказнасьці за паўстаньне гэтай новай дзяржавы“... Японскі адказ далей высьвятляе тыя прычыны, якія „зусім натуральна“ выклікалі „вольнае паўстаньне незалежнай Манчжурыі“. Японскі ўрад толькі „з поўнай зычлівасьцяй“ адносіцца да ўраду новай дзяржавы, спадзяючыся, што той „патрапіць цалком ушанаваць інтарэсы Японіі і ўтрымаць парадак у краі“... „Зычлівасьць гэтая аднак-жа,—гаворыцца ў адказе,—ня йдзе да чыннага падтрыманьня гэтага ўраду“.

Запраўды-ж—ніякай „чыннасьці“ на карысьць новага ўраду Японія не выяўляе, апроч хіба-ж толькі — фізычнага зьніштажэньня—сіламі 60-тысячнай арміі яе ў Манчжурыі ўсіх кітайскіх патрыётаў — праціўнікаў гэтага ўраду, як „звычайных бандытаў“...

### Заява дэлегата Японіі ў Лізе Нацыяў.

Японскі дэлегат у Лізе Нацыяў Сато заявіў англійскаму журналісту, што Японія „выяўляе вялікую ўступліваць у справе Шанхаю“, бо годзіцца на аддачу ўсяго нэйтральнага пасу пад загад кітайскай паліцыі, абяцуе вывесьці—на ведамых варунках — свае войскі з усяго шанхайскага абшару, апроч міжнароднай канцэсіі, і т. д. У Шанхайскай справе Японія гатова лёяльна супрацоўнічаць з дзяржавамі дый з Лігай Нацыяў; зусім іншая рэч—справа Манчжурыі. Трэба сказаць зусім выразна, — з націскам заявіў Сато,—што Японія ніколі не дапусьціць ніякага мяшаньня Лігі Нацыяў у справу Манчжурыі. Японія будзе прадаўжаць сваю палітыку ў Манчжурыі, не аглядаючыся на нікога, апроч гэтага незалежнага (?) ўжо гаспадарства. Але Японія ня толькі ня думае наваднянць Манчжурыю сваімі асаднікамі — апроч тых 200 000 японцаў, якія ўжо пасяліліся ў гэтым краі, але — наадварот — будзе ўсялякімі спосабамі заахвочываць кітайскіх асаднікаў, каб сяліліся ў Манчжурыі, каб чым хутчэй падняць гаспадарча гэты малалюдны край. Японія цікавіцца толькі гаспадарчымі карысьцямі, якія дасьць гэты край яе прамысловасьці і гандлю. Што да яго палітычнага ладу, дык ён для Японіі—зусім няцікаўны, абы толькі былі.. забясьпечаны канцэсіі (чытай: захваты й здабычы, якія атрымала Японія), жыцьцё ды маемасьць яе грамадзян.

Сато дадаў, што справа шанхайская можа лічыцца таму ўжо блізу зьліквідаванай, але — „ён баіцца, што з справай манчжурскай будзе яшчэ шмат клопатаў“... Хіба-ж гэта—выразны намёк на далейшую барацьбу за Манчжурыю — з дзяржавамі наагул, у тым ліку—з СССР дый з Амэрыкай у першую чаргу. Недарма-ж амэрыканская прэса абураецца на Францыю, якая быццам „цішком пад'юджывае Японію да вайны з СССР“ дый да поўнага захвату Манчжурыі.

## Што робіцца ў Індыі?

### Японскі прыклад дзеець...

Англійскі ўрад, як ведама, ніяк ня можа здабыцца на тое, каб — разам з Амэрыкай—рашуча запратэставаць проці японскіх гвалтаў у Кітаі—пад Шанхаем, ня гледзячы на тое, што японская акцыя дарэшты падрывае апошнюю павагу Англіі ў Кітаі. Але тое, што робяць самі англійцы ў Індыі, добра тлумачыць гэтую тактыку іх у Кітаі.

Як ведама, японская „карацельная выправа“ на Шанхай выклікана была, як адкрыта заявіў японскі ўрад, толькі байкотам кітайцамі японскіх тавараў.

Кітайцы ня куплялі японскіх тавараў, за гэта — вайна! Але-ж у Індыі блізу ўся барацьба індускіх незалежнікаў з англійцамі ідзе якраз шляхам арганізованага някупляньня насяленьнем краю англійскіх тавараў. Дагэтуль англійцы бароліся проці гэтага пляновага байкоту даволі „далікатна“... Але — цяпер, наглядзеўшыся на японцаў у Кітаі, пастанавілі тасаваць проці гандлёвага байкоту ў Індыі англійскіх фірмаў найбольш жорсткія меры. Як першы крок, пастаноўлена аддаць пад „ваенны нагляд“ (як было ў часе вайны) найвялікшыя краёвыя (індускія) фабрыкі тканінных вырабаў, якія забойча канкуруюць з англійскімі прывознымі тканінамі у Індыю.

### Канстытуцыя для Індыі.

Англійскі ўрад апрацоўвае новы выбарны закон для Індыі, абаперты на падзеле ўсіх выбаршчыкаў на асобныя курыі. Гэта значыць, што згары будзе ў законе прадбачана, колькі мандатаў у парляманьце будуць мець індусы, а колькі мусульмане, хрысьціяне, пары. Усе гэтыя галоўныя групы вялізарнага насяленьня Індыі маюць галасаваць асобна — „у сваіх курыях“. дзелячы паміж сваімі выбранцамі прызначаныя ім мандаты.

Мэта такога закону — ня даць магчымасьці пераважаючай групе Індусаў, а сярод іх блізу адзінай партыі гандыстаў-неза

